

# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: ***www.baza-belarus.org, e-krama.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 572, New York, NY 10313***

**№ 7 (557)**
**Ліпень 2012 г.**

# 97 год сп. Антону Шукелойцю



У ліпені спаўняецца 97 год сп. Антону Шукелойцю, выдатнаму дзеячу беларускай грамады ў Злучаных Штатах Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня" віншуе сп. Антона Шукелойця з ўгодкамі народзінаў і жадае здароўя і сілаў, а таксама дачакацца вызваленьня Беларусі ад антынацыянальнага рэжыму.

Сп. Шукелойць нарадзіўся ў 1915 годзе на Ашмяншчыне ў сялянскай сям'і. Ён атрымаў адукацыю ў Ашмянскай гімназіі й Віленскім унівэрсытэце. У 15 год прыняў удзел у перапісе насельніцтва 1931 году, падчас якога поруч з адзінадумцамі-беларускімі гімназістамі запісваў нацыянальнасьць не па "мове пацераў", а па мове штодзённага ўжытку. У выніку ён быў пакараны адтэрміноўкай матуры на год. Гэтую падзею сп. Шукелойць лічыць пачаткам сваёй нацыянальнай і палітычнай дзейнасьці. У Вільні сп. Шукелойць займаўся вывучэньнем беларускай этнаграфіі, сьпяваў у студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Р. Шырмы, быў сябрам партыі беларускіх эсэраў.

У 1939-1941 г.г. ствараў беларускія школы на Ашмяншчыне. Быў школьным інспэктарам-мэтадыстам, настаўнікам сярэдняй школы. Выбіраўся дэпутатам гарадзкога Савету.

У самым пачатку вайны быў арыштаваны як "ненадзейны антысавецкі элемэнт", трапіў у турму ў горадзе Вялейцы, пасьля быў перакінуты ў Крупкі. Падчас налёту нямецкай авіяцыі яму ўдалолся ўцячы. У пэрыяд нямецкай акупацыі Беларусі сп. Шукелойць знаходзіўся ў Менску, браў удзел у спробах наладжваньня беларускіх арганізацыяў і беларускага культурніцкага жыцьця. Працаваў у аддзеле культуры і асьветы гарадзкой управы, у архіве ЗАГСу, быў дырэктарам гістарычнага музэю. Ён меў непасрэднае дачыненьне да ўратаваньня славутай іконы Маці Божае Менскае, якая была неўзабаве адрэстаўраваная мастаком Віерам і перададзеная духовым уладам у катэдральны сабор у Менску.

Пасля вайны на эміграцыі ў Нямеччыне і Злучаных Штатах сп. Шукелойць актыўна ўдзельнічаў у працы Рады БНР, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Фундацыі імя Пётры Крэчаўскага і рэдакцыі газэты "Беларус". У 1975-2007 г. г. сп. Антон Шукелойць узначальваў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), быў Старшынём Галоўнай Управы.

Дай Вам, Божа, здароўя і сілы!

*У нядзелю,* ***15 ліпеня 2012 году,*** *традыцыйным Маршам пачынаецца*

# Тыдзень Паняволеных Народаў,

*які быў зацьверджаны Кангрэсам Злучаных Штатаў Амэрыкі праз Грамадзкі закон 86-90 яшчэ ў 1959-м годзе, як выказ пратэсту народаў сьвету супраць камуністычнай і таталітарнай тыраніі ў сьвеце. У імпрэзах Тыдня і ў Маршы Паняволеных Народаў традыцыйна бярэ ўдзел беларуская грамада Нью-Ёрку і Амэрыкі.*

***9:00*** – ***збор удзельнікаў Маршу*** *на Пятай авэню і 59-й вуліцы (ля фантану гатэля Пляза).*
***10:00*** – ***імша за Паняволеныя Народы*** *ў Катэдры сьв. Патрыка на Пятай авэню і 50-й вуліцы.*
***11:00*** – ***Марш Паняволеных Народаў*** *па Пятай авэню да 72-й вуліцы.*
***12:00*** – ***афіцыйнае адкрыцьцё*** *Тыдня Паняволеных Народаў у Цэнтральным парку.*

Арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які паўстаў у 1950-я гады, Тыдзень Паняволеных Народаў, часткаю якога ёсьць гэты Марш, быў масавай імпрэзай эміграцкіх арганізацыяў з краінаў, якія калісьці зьняволіў савецкі камунізм, у тым ліку Беларусі. Сёньня большасьць тых краінаў вызвалілася і здабыла свабоду.

Беларусь засталася паняволенай прамаскоўскім дыктатарскім рэжымам, там зьліквідаваная дэмакратыя, парушаюцца правы чалавека, зьнішчаецца нацыянальная культура. Таму беларуская грамада працягвае браць удзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, выказваючы свой пратэст.

# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 9 чэрвеня 2012 г., адбыўся справаздачна-выбарчы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Гэта фактычна першы сход арганізацыі, на якім адбываюцца справаздачы і выбары, пасьля як былы аддзел БАЗА ў Нью-Ёрку быў змушаны зьмяніць назву і выйсьці са старой структуры ўвосень мінулага году.

Напачатку сходу старшыня арганізацыі Віталь Зайка распавёў пра ход і працэдуру правядзеньня справаздачаў і выбараў і прапанаваў абраць выбарчую камісію. У выніку была абраная камісія ў складзе: Кірыл Ермакоў – старшыня, Алена Дубавая – сакратар, Шогік Саркісян і Віталь Блоцкі – сябры. Камісія зарэгістравала прысутных сяброў, якія маюць права голасу, а таксама прыняла ўпаўнаважаньні ад адсутных сяброў, што перадалі свае галасы. Было засьведчана, што колькасьць сяброў, якія маюць права галасаваць, складае 31 чалавек.

Са справаздачай аб дзейнасьці за пэрыяд з траўня 2011 г. па травень 2012 выступіў старшыня Віталь Зайка. Ён распавёў пра кшталт дзейнасьці й імпрэзы, якія былі праведзеныя “Пагоняй”, пералічыў зробленае, накрэсьліў найважнейшыя кірункі дзейнасьці і задачы арганізацыі. Прамоўца даў таксама кароткую фінансавую справаздачу, узгодненую з прысутнай скарбніцай аддзелу Валянцінай Балашчэнка.

Затым з кароткім словам выступіла скарбніца Валянціна Балашчэнка, якая адзначыла цяжкасьць апэратыўнага скарыстаньня фінансавых сродкаў без належнага банкаўскага рахунку, які можа быць адкрыты толькі пасьля афіцыйнай рэгістрацыі. Адказваючы на пытаньне адносна стану працэсу рэгістрацыі, сп. В. Зайка акрэсьліў, якія ўмовы неабходныя для рэгістрацыі, і як яна можа быць ажыцьцёўленая. З справаздачамі выступілі таксама рэдактар бюлетэню “Весткі й Паведамленьні” Марат Клакоцкі і сакратар Валянціна Якімовіч. Усе справаздачы былі прынятыя з абсалютораюмам з падзякай.

Пасьля адбылося высоўваньне кандыдатураў на пасаду старшыні Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Былі прапанаваныя наступныя кандыдатуры: Віталь Зайка, Валянціна Якімовіч, Марат Клакоцкі. Паколькі В. Якімовіч і М. Клакоцкі ўзялі самаадводы, галасаваньне прайшло на безальтэрнатыўнай аснове. У выніку сп. Віталь Зайка быў аднагалосна, 30 галасамаі, абраны на пасаду старшыні Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”.

Абраны старшыня прапанаваў свой склад управы арганізацыі, перад тым акрэсьліўшы прыкладныя функцыі й абавязкі сяброў управы, у наступным складзе: Валянціна Якімовіч – сакратар, Валянціна Балашчэнка – скарбнік; сябры Зьміцер Левіт, Яўген Барысевіч, Алена Дубавая, Кірыл Ермакоў, Тацьцяна Баева, Віктар Едзіновіч. Віцэ-старшынём арганізацыі прапанаваны Яўген Барысевіч. Ганаровымі сябрамі ўправы прызначаныя спадары Аляксандар Міцкевіч і Эмігідыюш Рыжы (Уладыка Юры). За прапанаваны склад управы прагаласавалі ўсе прысутныя сябры.

Затым сп. В. Зайка паведаміў пра магчымы перанос сходаў арганізацыі ў памешканьне пры саборы сьв. К. Тураўскага ў Брукліне (401 Атлянтык Авэню).

Сп-ня В. Якімовіч заклікала прысутных, хто лічыць сябе праваслаўнымі, падтрымаць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, і да яе заклiку далучыўся таксама сп. Віталь Зайка, падкрэсьліўшы, што гэта справа цалкам дабраахвотная, і не зьвязаная наўпрост з “Пагоняй” як грамадзкай арганізацыяй. Дэталі па гэтым пытаньні былі разгледжаныя на паседжаньні новаабранай управы пасьля выбарчага сходу.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў Згуртаваньне

Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| Т. Баева | 50 |
| Г. Воранава | 50 |
| А. Жаркова | 50 |
| М. Клакоцкі | 50 |
| Н. Козел | 50 |
| К. Кузьменка | 50 |
| А. Лазар | 50 |
| В. Лазар | 50 |
| К. Ліпская | 50 |
| А. Нярэзка | 50 |
| А. Сакіранаў | 50 |
| А. Сілівёрстаў | 50 |
| В. Сіманян | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніцы** *Valentina Balashchenko.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 14 ліпеня 2012 году** на Мангэтане.

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку* ***www.baza-belarus.org***

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Т. Баева | 30 |
| Г. Воранава | 30 |
| А. Жаркова | 30 |
| Н. Козел | 30 |
| К. Кузьменка | 30 |
| В. Лазар | 30 |
| А. Лазар | 30 |
| В. Сіманян | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Паважаныя **Вольга Васіна, Марыя Волкава**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko***

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***

*Емэйл адрас: **viestki@mail.com***